# Нашу моду фармуюць амбіцыі тавараведак

*На думку айчынных вытворцаў адзення, непапулярнасць айчынных марак вопраткі крыецца не ў састарэласці ейнага дызайна, а ў адсутнасці грошай на рэкламу і ў гусце тавараведаў гандлёвых цэнтраў.*


Фота IREX/ProMedia

Заклік «купляць беларускае» адзенне спрацоўвае ў Беларусі толькі адносна бялізны ад «Міла-віцы» і паліто ад «Элемы», а прадукцыю астатніх вытворцаў у крамах звычайна купляюць толькі людзі зусім абыякавыя да моды ці кіраваныя жорсткай эканоміяй. Па словах Эльвіры Жвіковай, галоўнага мастацкага кіраўніка «Беларускага цэнтра моды» (БЦМ), ні праблемаў з прафесійнымі дызайнерамі, ні з арыгінальнымі дызайнерскімі распрацоўкамі ў айчынных вытворцаў на самой справе няма. Напрыклад, дызайнеры БЦМ да кожнага сезона рыхтуюць калекцыю адзення для масавай вытворчасці і разам з тым невялікую аўтарскую калекцыю. Яна стылёвей, арыгінальней, не горш за калекцыі замежных мадэльераў, а таму і даражэй, але пакупнікі не гатовыя за яе плаціць столькі, колькі яна каштуе.

Сярод мадэляў масавай калекцыі таксама хапае досыць модных і сучасных распрацовак, але не ўсё з гэтага можа патрапіць у гандаль. Моду ў крамах фарміруюць тавараведы. У іх асноўным крытэрыем закупкі той ці іншай дызайнерскай мадэлі выступае ўласны густ і густ бліжэйшых сябровак – усе мадэлі яны ацэньваюць з прынцыпу «ці будзем я альбо мая сяброўка гэта насіць». «Таму мы заўсёды прыблізна ведаем, што ў нас закупіць тая ці іншая секцыя гандлёвага цэнтра», — кажа Эльвіра Жвікова. А паколькі асноўная мэта кожнага дызайнера прадаць сваю мадэль, стварыць досыць модную і адметную рэч, каб яна потым проста вісела, ніхто асаблівага жадання не мае. Таму спецыялісты-кансультанты з-за мяжы пасля наведванняў нашых выставаў калекцыяў вопраткі, трапляючы ў крамы, вельмі здзіўляюцца розніцы паміж дызайнам вопраткі з выставаў і той, што вісіць у крамах. За мяжой фармаваннем асартыменту прадукцыі ў гандлёвых цэнтрах займаюцца не тавараведы, а «байеры» – людзі, якія спецыяльна наведваюць усе паказы калекцыяў і робяць замовы для продажу. А прадпрыемствы суадносна колькасці атрыманых замоваў выпускаюць столькі ж адзінак адзення.

Аднак без рэкламы нават «ультраціск» могуць не заўважыць. Тэарэтычна любое наша прадпрыемства лёгкай прамысловасці прафесійная каманда рэкламістаў можа раскруціць за пару месяцаў – новы стылёвы лагатып, слоган да яго, вонкавая рэклама на кожным кроку плюс тэлевізійная раскрутка. Але ўсё ўпіраецца ў грошы. Бліжэйшым часам на тэлебачанні з'явіцца рэклама 8 прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці, але, па словах начальніка швейнай і трыкатажнай прымысловасці канцэрна «Беллегпрам» Алены Кухаравай, нават з вялікімі зніжкамі такі сціплы рэкламны праект для канцэрна занадта дарагое задавальненне. У 500 доляраў абышліся здымкі рэкламнага роліка, яго размяшчэнне ў эфіры са зніжкамі ў 80%, якія маюць у рэкламе вытворцы, каштуе 24 тысячы рублёў за хвіліну рэкламы, а круціць яго трэба не менш за 4 разы на дзень.

На тэлебачанне нашы мадэльеры ўвогуле пакрыўджаныя. Ні на адзін конкурс ці паказ нашых мадэляў «за проста так» ніхто не з'явіцца, аддаючы перавагу рэтрансляцыі са спадарожнікавага тэлебачання паказу моды «ад куцюр», і ніхто не лічыць патрэбным выхоўваць густ гледача, ствараць аўтарскія праграмы прафесійных дызайнераў па ліквідацыі непісьменнасці ў свеце моды. Між тым, рабіць гэта проста неабходна, хоць бы дзеля таго, каб не цярпець ад безгустоўнасці нашых тавараведаў.

**Алена ЛАБАНАВА**

# «*Long Play*» у «Падземцы»

19 кастрычніка ў музычным магазіне «Падземка» ў Мінску адбылася прэзентацыя дэбютнага альбома беларускага гурта «*Long Play*».

Запіс альбома «Бясконцая гісторыя», куды ўвайшлі 14 розьнапланавых кампазіцыяў, адбываўся са снежня 2000 года па жнівень 2001-га на мінскай студыі «*X-Noise Factory*», за выключэннем песні «Акіян», якая была запісаная на студыі «Мецэ-Форта».

Сталічны гурт «*Long Play*» быў заснаваны 25 снежня 1995 года Мікалаем Лявонцьевым, Сяргеем Грынкевічам і Таццянай Лабадой. Пасля выпуску пласцінкі «Вольныя танцы - Новая альтэрнатыва», куды ўвайшла кавер-версія песні гурта «*Trocks*» «*Wild Thing*», запісаная «*Long Play*», гэтая кампазіцыя загучала на многіх мінскіх радыёстанцыях. На працягу 1999 года песня часта гучала і займала вядучыя месцы ў хіт-парадах *FM*-станцыяў. У канцы 1999 года выйшаў англамоўны сінгл каманды, куды ўвайшлі песні «*Lost*», «*WW*», «*Ramonki*», а ў 2000 годзе гурт стаў актыўна працаваць над праграмай на рускай і беларускай мовах. Варта адзначыць, што каманда неаднаразова запрашалася на розныя польскія фестывалі.

У красавіку гэтага года на кампіляцыі «Вольныя танцы - Альтэрнатыва.by» выйшаў мегахіт калектыву «Адлятаю-таю», які 9 тыдняў не пакідаў дваццатку лепшых песень на радыё «Рокс» і 7 тыдняў — хіт-парад «Мега-перцы» на «Альфа Радыё», ні разу не апусціўшыся ніжэй за пятае месца. У верасні гурт запісаў на рускай мове кампазіцыю «Акіян», якая адразу трапіла ў радыёчарты многіх мінскіх радыёстанцыяў.

Прэм'ера кліпа на песню «Акіян» запланаваная на канец гэтага года. Што да будучых выступленняў каманды, то ў 2002 годзе «*Long Play*» плануе выступіць на фестывалях «Басовішча» (Польшча) і «*London's Rock Festival*» (Англія).

**Маша ПЯТРОВА**

**КАДРЫ**

# Безнадзейнасць і надзея


Фота IREX/ProMedia

Супрацоўнікі Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі дачакалі-такі новага кіраўніка – трэцяга за год з лішкам, і па завядзёнцы прызначэння старшыні Беларускага тэлебачання давялося чакаць ад Аляксандра Лукашэнкі блізу месяца. У мінулую пятніцу, звычайны для кадравых перастановак у прэзідэнта дзень, новым старшынём БТ названы Ягор Рыбакоў, які быў выконваючым абавязкі на гэтай пасадзе не толькі пасля смерці папярэдняга кіраўніка адзінага агульнанацыянальнага канала Валерыя Скварцова, але і яшчэ пасля адстаўкі Віктара Чыкіна.

Кажуць, Аляксандр Лукашэнка меўся прызначыць кіраўніком БТ 29-гадовага Ягора Рыбакова і прадставіць яго ў гэтай якасці супрацоўнікам тэлебачання яшчэ пазамінулай пятніцай падчас сустрэчы з імі на Макаёнка, 9. Але тады з крытыкай бэтэшнага кіраўніцтва і асабіста Ягора Рыбакова выступілі прадстаўнікі складзенай з адпраўленых у рэзерв камандай Чыкіна, Рыбакова, Зімоўскага і Хрусталёва журналістаў Дырэкцыі перспектыўнага вяшчання.

А.Лукашэнка нібыта вырашыў разабрацца і вывучыць сітуацыю. На БТ шчыра спадзяваліся, што гэта сапраўды так, бо дужа не жадалі бачаць на чале і без таго дэградаванага тэлебачання Ягора Рыбакова. Аднак кіраўнік дзяржавы ўсё ж спыніўся на першапрынятым рашэнні, чым які ўжо раз расчараваў тых, хто працуе на першым і адзіным.

І нічога дзіўнага тут няма: Я.Рыбакоў – чарговы перацягнуты прэзідэнтам на кіраўнічыя рэспубліканскія пасады магілёўскі кадр. Да прызначэння намеснікам Віктара Чыкіна ён у 1994-2000 гадах ачольваў Магілёўскае абласное тэлебачанне.

Паўтара месяца за цяпер нябожчыкам Валерыем Скварцовым, які спрабаваў нешта вартае зрабіць, у прыватнасці, вярнуць у бэтэшныя шэрагі прафесіяналаў, на жаль, было вельмі мала. Нягледзячы на маладосць новага старшыні Беларускага тэлебачання, чакаць нейкіх якасных эфірных фармазместавых зменаў (скажам, стаць аб'ектыўным) на канале не выпадае.

І знікненне з сеткі вяшчання ідэалагічных дрындушак кшталту «Таемных спружынаў палітыкі» і «Рэзананса» нікога ў зман не звядзе і аптымізму не надасць. Калі будзе трэба – пад чарговую прапагандысцкую кампанію ўладаў – яны самі ці іхнія двайнікі з'явяцца нанова і запрацуюць напоўную.

А вось прызначэнне міністрам адукацыі Пятра Брыгадзіна (нарадзіўся ў 1949 годзе на Брэстчыне) замест занадта заседзеўшагася ў гэтым крэсле Васіля Стражава падаецца не такім ужо адыёзным і бесперспектыўным. І нечаканым. Сярод патэнцыйных кандыдатураў на гэтую пасаду ў чутках па міністэрстве адукацыі часцей за ўсё згадвалася Ядвіга Грыгаровіч, якая ўзначальвае універсітэт культуры.

Новы міністр – колішні рэктар Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і колішні першы прарэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Калісьці Пётр Брыгадзін узначальваў там кафедру найноўшай гісторыі. Што цікава, цяпер П.Брыгадзін стане над сваім былым шэфам – рэктарам БДУ Аляксандрам Казуліным.

Пры Пятру Брыгадзіне міністрам адукацыі ёсць спадзеў на развіццё і пашырэнне беларускамоўнай адукацыі. Хоць, памятаецца, неяк яшчэ на пасадзе прарэктара БДУ ён, разважаючы пра перспектывы стварэння з ініцыятывы Таварыства беларускай мовы Беларускага нацыянальнага універсітэта з выкладаннем усіх дысцыплінаў па-беларуску, паставіўся да гэтага скептычна, але выказаўся за пераўтварэнне ў беларускамоўныя ўжо існуючых ВНУ. Прынамсі, за павелічэнне там беларускамоўных плыняў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Сяржук Сокалаў-Воюш прэзентуе альбом

*«Мне краёў чужых не трэба,*
*як ні варажы,*
*Не хачу чужога хлеба,*
*радасцяў чужых.*
*Бо чужына сэрца джаліць,*
*цісне, як змяя,*
*Бо гукае з даўніх даляў*
*Беларусь мая!»*
*С.Сокалаў-Воюш.*
*«Аксамітны вечар»*

Запланаваны прыезд з Прагі ў Беларусь легенды беларускай бардаўскай песні Сяржука Сокалава-Воюша спрычыніцца да прэзентацыі яго альбома «Нефармальны беларус», якая адбудзецца 1 лістапада ў ДК БелОГ (Уральская, 3). Пачатак а 19 гадзіне. Кошт квітка ад тысячы да чатырох.

Сяржук Сокалаў-Воюш з'яўляецца адным з пачынальнікаў нацыянальнай героіка-публіцыстычнай плыні ў беларускай бардаўскай песні. Класікі гэтага жанру гартавалі свой паэтычны талент, выканаўчае майстэрства не толькі ля вандроўных вогнішчаў ці ў вагонах дальніх цягнікоў, але і на падпольных канцэртах-сустрэчах сяброў «Майстроўні» ды «Тутэйшых», пад пранізлівымі вятрамі ды дубінкамі першых мітынгаў апазіцыі канца 80-х...

Цяпер, на жаль, наш бард працуе ў беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» і вымушаны жыць у эміграцыі, як В.Быкаў і многія іншыя дзеячы беларускай культуры. Мабыць, чужына не толькі наш боль, але гэта ўжо хранічная хвароба — «з'язджаць», калі прышчэмяць хвост. Але...Трэба аддаць годнае гэтаму чалавеку.

Трэба адзначыць, што Воюш — першы беларускамоўны бард, які здабыў масавую папулярнасць без апоры на законы шоу-бізнесу: без асаблівай рэкламнай кампаніі, без афіцыйнай прэзентацыі. Сваю справу рабілі толькі аматарскія запісы (простыя ды кампазіцыйна запамінальныя, меладычныя песні), выступы ў дзіцячых садках і школах з беларускай мовай навучання.

Вядомасць Воюша як публічнага зонг-выканаўцы спрыяла росту папулярнасці іншых беларускіх бардаў, якія таксама ператалі цурацца хатніх канцэртаў ды мітынговых пляцовак ад Гародні да Гомлі — Алеся Камоцкага, Андрэя Мельнікава, Віктара Шалкевіча, Вальжыны Цярэшчанкі, Зміцера Бартосіка... Яны зрабілі спробу адраджэння Беларусі ў свядомасці людзей праз песню грамадска-патрыятычную, праз свае здольнасці граць і спяваць на гітары. Спроба ўдалася, але не надоўга. Цяпер усё радзей мы чуем бардаўскі спеў: няма дзе, ды няма за што.

І ўсё ж Сокалаў разам з іншымі па праве лічыцца пачынальнікам ды класікам гэтага жанру на Беларусі, але недарэчна так сталася, апазіцыйны трыбун і сатыр не мае аўтарскіх, запісаных у прыстойных студыях кружэлак! А можа, гэта такі лёс — заставацца ў памяці прыхільнікаў, у іх сэрцы, а не на гукавых дарожках кружэлак?

Ды, як цяпер бачым, усё вяртаецца «на кругі свая». Такі час, калі прыходзіцца будаваць наноў толькі што збудаванае, якое, праўда, не прадугледзела даху: усё выдула там «паганым» ветрам.

Так што, Сяржук, мы цябе чакаем з нецярплівасцю! Прыедзеш?

**Ірына ТОЎСЦІК**

# Што не дазволена каралям, дазволена Лукашэнку

Дэкрэт прэзідэнта №25 «Аб павышэнні ролі навукі і рэфармаванні Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», падпісаны 17 кастрычніка, парушае звыклае правіла, калі прэзідэнт НАНБ і яе прэзідыум выбіраліся з ліку акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў. Цяпер, згодна з дэкрэтам, прэзідэнт Акадэміі навук прызначаецца кіраўніком дзяржавы на ўласны густ.

Дырэктар Інстытута арганічнай хіміі акадэмік Уладзімір Салдатаў лічыць, што акадэмія сама прывяла Аляксандра Лукашэнку да такога дэкрэта, паколькі «паводзіла сябе нелагічна, не змагла прыняць радыкальных рашэнняў па сваёй дзейнасці, распрацаваць канцэпцыю ўласнага развіцця». А ўвогуле, заявіў дырэктар інстытута, яму «усё роўна». «Хімія так ці інакш будзе патрэбная. Нам важна толькі, каб кіраўніцтва акадэміі не перашкаджала працаваць», — адзначыў ён.

Сваё стаўленне да дэкрэта выказаў таксама акадэмік Нью-йоркскай акадэміі навук, прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў (БСП) Аляксандр Патупа. На яго думку, дэкрэт № 25 ператварае акадэмію ў «квазіміністэрскую структуру» насуперак сусветным тэндэнцыям. Уявіць сабе немагчыма, сказаў Патупа, каб, напрыклад, прэзідэнт Францыі выдаў дэкрэт аб тым, што кіраўніцтва Французскай акадэміі навук цяпер будзе прызначацца персанальна ім. Кіраўнік БСП нагадаў пра сумны пяцігадовы вопыт дзяржкіравання прадпрымальніцтвам у Беларусі з дапамогай створанага ў 1996 годзе міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў. Тое ж будзе і з рэарганізуемай Акадэміяй навук, лічыць ён. Пры гэтым, аднак, Аляксандр Патупа выказаў меркаванне, што калі з дэкрэтам згадзіцца, то прызначэнне Міхаіла Мясніковіча прэзідэнтам НАНБ можна лічыць «найлепшым рашэннем», паколькі ён «мае каласальны ўплыў у калідорах улады» і «ў якасці міністра ў акадэміі-міністэрстве можа садзейнічаць атрыманню максімальных бюджэтных сродкаў і дзяржзаказаў».


Фота Ул.ШЛАПАКА

**Мікалай ГРАЧУХА**



У Палацы мастацтва, што на вуліцы Казлова, 3 у Мінску, адбудзецца выстава «Разам з «Пагоняй», прымеркаваная да 60-годдзя мастака Аляксея Марачкіна. У экспазіцыі, акрамя працаў юбіляра, – творы сябраў суполкі «Пагоня», якая не мела іншай магчымасці адзначыць 10-гадовы юбілей, як далучыцца да свайго першага кіраўніка.
Адкрыццё выставы – 24 кастрычніка а 17 гадзіне.

# На аркестр падала тынкоўка



З-за аварыйнага стану канцэртнай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі перанесеныя тэрміны адкрыцця III Беларускага фестывалю эстрадных аркестраў.

Меркавалася, што гэтая творчая акцыя адбудзецца з 18 па 21 кастрычніка ў Белдзяржфілармоніі. Прычым адкрыццё фестывалю было даверанае Дзяржаўнаму канцэртнаму аркестру Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста краіны Міхаіла Фінберга.

Аднак увечары 18 кастрычніка, падчас рэпетыцыі, за паўгадзіны да пачатку выступлення, на сцэне канцэртнай залы здарылася нечаканае — са столі на аркестрантаў сталі падаць кавалкі тынкоўкі. Канцэрт давялося адмяніць.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам БелаПАН сп. Фінберг паведаміў, што творчая акцыя, хутчэй за ўсё, пройдзе ў рамках фестывалю «Беларуская музычная восень». Па словах маэстра, канчатковае рашэнне будзе прынятае на будучым тыдні. Каменціруючы аварыйны стан залы філармоніі, кіраўнік аркестра заначыў, што «экспертная камісія разбярэцца і прыме рашэнне». «Тое, што здарылася, — сур'ёзная рэч, якая тычыцца жыцця людзей і звязаная з тэхнікай бяспекі», — заўважыў артыст. Паводле яго словаў, у здарэнні ніхто канкрэтна не вінаваты, «час і жыццё вінаватыя».

Усе прыхільнікі эстраднай музыкі, якія набылі білеты на канцэрты фестывалю, могуць здаць іх у касу філармоніі.

**БелаПАН**

СПОРТ

# Сенсацыя месяца становіцца сенсацыяй года

Вельмі прыемны і нечаканы працяг атрымала сенсацыйная перамога Макса Мірнага ў другім крузе тэніснага супертурніру ў Штутгарце над першым тэнісістам свету Густава Куэртэнам. Усе назвалі гэта неверагодным поспехам беларуса і сабраліся паставіць на ім кропку, бо наступным сапернікам нашага тэнісіста быў сёлетні пераможца Уімблдона Горан Іванішавіч. Але Макс прымусіў усіх скептыкаў-спецыялістаў замоўкнуць, бо і харват быў пераможаны ў 1/8 фіналу з лікам 4:6, 7:6, 7:6!



Але і гэта аказалася далёка не ўсё. Далейшымі ахвярамі злавіўшага гульню Макса сталі чалавек-легенда, лепшы тэнісіст свету ў сезонах 1994-1999 гадоў Піт Сампрас (6:4, 6:2) і ў паўфінале(!) яшчэ адзін з мацнейшых на планеце тэнісістаў расіянін Яўген Кафельнікаў (7:6, 6:3). Такім чынам Макс выйшаў у фінал і такім чынам атрымаў цэлую гару рэйтынгавых ачкоў і амерыканскіх долараў. Адпаведная іх колькасць раўняецца 70-ці ачкам і 228 тысячам долараў ЗША. Але гэтыя лічбы могуць значна павялічыцца, калі Мірны пераможа ў фінале турніру немца Томі Хааса. Да таго ж тады Макс упершыню стане пераможцам буйнога тэніснага турніру за сваё жыццё.

Гэта, канешне, прагучыць фантастычна, але пры неверагодных поспехах у адзіночным разрадзе, Макс Мірны дабраўся да фіналу разам з аўстралійцам С.Столле і ў парным разрадзе! Там іх чакае пара, складзеная з паўднёваафрыканца Уэйна Ферэйры і амерыканца Джэфа Таранга.

Атрымоўваецца, што Макс Мірны разам з гульнямі ў парным разрадзе і кваліфікацыяй правёў ужо 11(!) гульняў за тыдзень і ва ўсіх перамог. Фантастычны вынік! А калі пераможа і ў фіналах, то трынаццаць выйграных гульняў за тыдзень на такім узроўні увогуле могуць стаць сусветным рэкордам. Ва ўсякім разе за апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў нічога падобнага не было. І вельмі прыемна, што аўтарам такой сенсацыі года можа стаць менавіта беларус. Будзем спадзявацца, што так і будзе.

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

# «Дзяўчынка з парасонам» і мінскія хуліганы

*Бронзавая скульптура «Дзяўчынка з парасонам», устаноўленая на алеі Міхайлаўскага (былога Ленінградскага) сквера ў цэнтры Мінска, у ноч з 17 на 18 кастрычніка была паўторна знявечаная невядомымі вандаламі.*



Фота IREX/ProMedia

Нагадаем, што напачатку верасня мінулага года невядомыя зламыснікі адламалі ад ручкі парасона яго элегантны купал і кісць правай рукі бронзавай скульптуры, а затым адбілі і ручку парасона. Праз тры тыдні намаганнямі малога прадпрыемства «Юнома» (Мінск) скульптура была адноўленая, прычым для ўмацавання кісці рукі ўнутры яе бронзавай поласці быў змешчаны сталёвы стрыжань.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН аўтар «Дзяўчынкі з парасонам» скульптар Уладзімір Жбанаў сказаў, што кампазіцыя была знявечаная ўдарам трактара, аб чым сведчаць сляды пратэктараў. Аднак, невядомыя не паспелі забраць з сабою адарваную частку кампазіцыі.

Скульптар выказаў спадзяванне, што міліцыя, нарэшце, знойдзе варвараў і прыме захады для выключэння падобнага ў будучым. На думку скульптара, прычынай здарэння часцей за ўсё з'яўляецца абыякавасць і маладушнасць сведкаў. Пры гэтым скульптар нагадаў аб суровым пакаранні за падобныя злачынствы для тых, хто з мэтай нажывы спрабуе збыць каляровы метал знявечаных помнікаў. Скульптар выказаў спадзяванне, што бліжэйшым часам кампазіцыя будзе адноўленая.

Бронзавая фігурка дзяўчынкі з парасонам, якая ўсміхаецца, — гэта трэці твор скульптара Жбанава, устаноўлены ў Міхайлаўскім скверы.

Падчас рэканструкцыі Ленінградскага сквера ў 1997 годзе аўтар праекта архітэктар Барыс Юрцін прапанаваў замест плануемай выставы работ сучасных скульптараў змясціць у скверы кампазіцыю У.Жбанава «Дама на лаўцы». Вясною 1997 года ў абноўленым Міхайлаўскім скверы (перайменаваным па падпольнай мянушцы Міхаіла Фрунзе — «Міхайлаў») з'явілася гэтая вытанчаная спрадвеку адзінокая жанчына. Услед за ёю — ужо ўвясну 1999 года — скульптар устанавіў у скверы адмысловага беларускага Астапа Бендэра — бронзавага «Прыкурваючага». Увясну 2000 года сквер упрыгожыла фігурка дзяўчынкі з парасонам.

«Кожная праца давалася мне з болем, таму што я разумеў, што мае скульптуры будуць стаяць не некаторы час у выставачнай зале, а назаўсёды ў цэнтры горада», — сказаў скульптар. Паводле яго словаў, каб перадаць імпульс унутранага руху і дамагчыся гарманічнасці ўсёй кампазіцыі, «я бясконцую колькасць разоў мяняў ногі «Дзяўчынцы з парасонам».

Скульптуры Уладзіміра Жбанава ў Міхайлаўскім скверы сталі, паводле яго словаў, «самай першай і самай вялікай творчай працай, якая поўнасцю змяніла маё жыццё».

**Марат ГАРАВЫ**

# Разгадкі вялізных заробкаў

Напісаць гэты ліст мяне прымусіў артыкул «Горкае свята для настаўнікаў» у вашай газеце за 10 кастрычніка 2001 г., у якім, з аднаго боку, адчуваецца турбота за лёс сістэмы адукацыі, узровень заробкаў настаўнікаў, з другога ж боку, відавочна, што аўтар не ведае сапраўднага, жабрацкага ўзроўню заробкаў настаўнікаў і абапіраецца ў публікацыі на дадзеныя «лукашэнкаўскіх» газет пра нашы зарплаты. Я чытала і было крыўдна за дэзінфармацыю, на якую паддаліся вашыя карэспандэнты, а газета незнарок яе распаўсюдзіла па ўсёй Беларусі. Усё выкладу па пунктах.

1. У артыкуле зазначаецца: «...у жніўні сярэдні ўзровень заробкаў у сферы адукацыі склаў 103 тыс. рублёў, ці 59,6% ад узроўню заработнай платы ў прамысловасці, а педагогі ў жніўні мелі 114,7 тыс. рублёў, ці 66,3% ад узроўню ў прамысловасці».

а) Адкуль у вас такія завышаныя лічбы аб заробках?! З лукашэнкаўскай «Советской Белоруссии»?! Гэта няпраўда, што настаўнікі столькі зарабляюць!

б) Заробкі на паўтары(!) стаўкі (а не на стаўку як у прамысловасці!) у Гродна па школах у верасні пасля падвышкі склалі 94—97 тыс. рублёў (з класным кіраўніцтвам і іншымі датацыямі), у старых настаўнікаў з вялікім стажам на 2(!) стаўкі – каля 114 тыс. рублёў. А цяпер палічыце на стаўку (гэта з прэміяльнымі) у настаўніка і на стаўку (толькі на адну, а не на 1,5—2) у рабочага. Атрымліваецца не 59 ці 63% ад прамысловасці, а каля 30%!!! (У жніўні 50—60 тыс. рублёў).

в) Прабачце, але з чаго вы налічылі такую сярэднюю зарплату. У нас у школе многія настаўнікі атрымалі за верасень 60 тыс., 70 тыс., 80 тыс., мала хто 100 тыс. рублёў, працуючы больш і значна больш чым па паўтары стаўкі. Вы што, склалі заробак міністра і настаўніка на 1,5 стаўкі і вывелі сярэдні па сістэме адукацыі?! А гэта ўжо здзек.

г) Хачу праз газету ад свайго імя і калегаў-настаўнікаў звярнуцца да А.Р.Лукашэнкі: выконвайце закон аб адукацыі і дайце заробак, хаця б на ўзроўні выжывання, а то пасля, Аляксандр Рыгоравіч, будзеце дзівіцца, адкуль бяруцца апазіцыянеры.

2. Добрай была думка ў артыкуле наконт скарачэння акадэмічных гадзін у тыдзень да 14—16. У цывілізаваных краінах іх яшчэ менш, а ў нас настаўнікі, каб зарабіць 90—100 тыс. рублёў (каля 55% ад сярэдняга заробку на 1 стаўку ў прамысловасці) набіраюць 26—32 гадзіны. Пра які ўзровень падрыхтоўкі да заняткаў можа ісці размова?! А здароўе?

3. У школах Гродна ў дадатак з трох класаў парабілі 2, у кожным з іх 28—30 чалавек. У артыкуле «Горкае свята для настаўнікаў» гаворыцца, што настаўнікі могуць застацца без працы, бо менш вучняў у школах. Дык якой халеры ў Гродна паскарачалі колькасць класаў, знізілі колькасць гадзін, пакінуўшы тую ж колькасць вучняў? Вось гэта эканомія грошай! А ў філолагаў пры гэтым колькасць сшыткаў для праверкі не паменшала. А дзе цацанкі-абяцанкі міністра адукацыі Стражава аб тым, што класы будуць па 15—18 чалавек. Чаму ж шанца не скарысталі? Спадар Стражаў падмануў! 32 вучні за ўрок і блізка выклікаць немагчыма, а адміністрацыя патрабуе гэтага.

У сувязі з вышэйсказаным стаіць і маральная атмасфера. У нашых школах уваходзяць у правіла (настаўнікі паважанага веку кажуць, што ідзе адраджэнне) жорсткія рэпрэсіі з боку адміністрацыі за выказванне такой уласнай думкі, якая супярэчыць афіцыйным ідэалагічным устаноўкам. Інакш кажучы, дзеля спакою «асветніцкай вертыкалі», якая служыць вертыкалі адміністрацыйнай, зацвярджаецца хлусня, замоўчванне, боязь страты працоўнага месца за шчырасць. Настаўнік страчвае самапавагу, адпаведна – павагу з боку вучняў.

**Алеся ДЗЕЦЯВЕЦКАЯ,**
**настаўніца**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 22– 29 октября

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН.** Кто-то расщедрится на автомобиль супругу или на приобретение средств связи. Ваши интересы подчинены супругу или партнеру, их работе и целям. Тем не менее, не всегда это спасает положение в выходные дни, когда можно лишиться части имущества. Собрания единомышленников готовы оформиться в новую партию или движение. Издательская и публичная деятельность повышает ваши дивиденды и рейтинг.



**ТЕЛЕЦ.** Кто-то готовит документы о переходе на другую работу. Гонорар за писательскую деятельность и творческий труд как нельзя кстати. Бизнесмены также чувствуют себя неплохо, намечаются неплохие приобретения, особенно в четверг и пятницу. К кому-то прибьется домашнее животное. В выходные дни не пускайте на самотек начальные проявления заболевания, а также соблюдайте меры безопасности на дорогах.



**БЛИЗНЕЦЫ.** Дети чувствуют себя на свободе, как журавли в небе. Наконец-то можно порадоваться их успехам в учебе и карьере. Обозначается идиллия в любви. Обсуждение свадебных торжеств и проведение развлекательных, общественных мероприятий проходит на высшем уровне. Чья-то жизнь становится достойной пера, мемуаров. В выходные дни не стоит много тратиться, кто-то проедется за ваш счет.



**РАК.** Вы «уходите в семью». Имеет смысл осмотреться, задуматься о фундаментальных вопросах жизни, в конце концов – хотя бы переставить мебель или привести в порядок гараж. В пятницу кто-то услышит слова «с милым рай и в шалаше». Пользуйтесь поводом решить серьезные домашние проблемы, поскольку в выходные дни гостям в доме не все будут рады, а кому-то предъявят юридические претензии.



**ЛЕВ.** Соседи у вас – милые люди. Да и коллеги, в том числе бывшие, также могут порадовать, похлопотать о вашей судьбе. Можно смело отправляться в путь, в командировку или за автомобилем, но вернуться желательно до выходных. В пятницу разгорается пожар любви, Муза является к вам в образе вашей потаенной мечты. В выходные дни опасайтесь карманных и мелких автомобильных воришек.



**ДЕВА.** Наконец-то профессиональные интересы совпадают с финансовыми. Не исключено появление новых людей в трудовом коллективе, смена рабочего коллектива. Коммерческий успех намечается в будние дни, особенно в четверг и пятницу. А вот в выходные желательно свернуть материально-финансовые отношения, не стоит одалживать деньги и спонсировать друзей, которые не все способны просчитать.



**ВЕСЫ.** Если вы променяли стены родного дома на дорогу, то правильно сделали. За что бы вы ни взялись, особенно за давние дела, могут удачно сложиться обстоятельства. Главное – не лениться. Ценные идеи стоит брать на заметку в четверг и пятницу, а обозначившиеся в эти дни знакомства могут перерасти в прочные отношения, в том числе деловые. В выходные дни не стоит идти на работу или заниматься профессиональной деятельностью – хлопот не оберешься.



**СКОРПИОН.** Лучше всего уйти в подполье, уединиться, заняться научным или писательским творчеством. В пятницу вероятен подарок, партнер знает секрет, как вдохнуть в вас ощущение полнокровной жизни. Кому-то по наследству может отойти доля имущества. Выходные дни – далеко не лучшее время отправляться в путь, не будете знать, что делать с невесть откуда взявшимися проблемами.



**СТРЕЛЕЦ.** Спокойное семейное счастье или общественная популярность дает уверенность в завтрашнем дне. Вероятно появление будущего супруга из среды друзей или «бывших», важно вовремя снять трубку телефона и не отказываться от встречи. В выходные дни друзья могут подвести, да и в профессиональной деятельности вероятны экстремальные ситуации, связанные с бумагами или разъездами, поэтому – лучше отдыхайте.



**КОЗЕРОГ.** Вы способны достичь отличного профессионального и коммерческого результата, особенно если речь идет о давнишнем проекте. Наступает кульминация и реализация задуманного, особенно в четверг. В пятницу романтическая встреча готова перерасти в тайную, можно получить неожиданную поддержку или предложение о заработке. Будьте готовы в выходные дни выслушать претензии.



**ВОДОЛЕЙ.** Намечается романтическое приключение в дальней поездке или с человеком, с которым вы «расширяете горизонты», имеете общие интересы. Вероятно, с ним (ней) большая разница в возрасте. В пятницу стоит и расслабиться, может быть – собрать шумную компанию друзей или придумать нечто небывалое с любимым, с ребенком. В выходные дни не одевайтесь легкомысленно – повышен риск схватить простуду.



**РЫБЫ.** Можно провести незабываемую неделю совместно с супругом или партнером, отдохнуть где-нибудь на воздухе. На работе кому-то готовы выписать премию. Вас тянет на экстремальные переживания, которые вращаются вокруг близких отношений любящих людей. Творческая командировка в выходные дни, скорее всего, пройдет напряженно, как и знакомство с возможными будущими родственниками.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1775 Нумар падпісаны ў друк 21/10/2001 (15:00) Наклад — 9.900